Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 3. Вільня, Серада, 25-га лістапада 1925 г. Год I.

## „Калиф на час“.

Апошнія тыдні ў палітычным жыцьці Польшчы былі вельмі ажыўленыя. Дзіва: справа йшла ні больш, ні менш, як аб тое, ці сучасны Сойм здольны выпаўняць пастаўленую яму задачу кіраваньня ўсім дзяржаўным жыцьцём Польшчы, ці павінен чымхутчэй саступіць з дарогі новым сілам, якія паклікаены будуць *народам* — на новых выбарах, або... тэй ці іншай *сільнай адзінкай*, якая адважылася-бы ўзяць на сябе ўсю адказнасьць за далейшы лёс Польскае рэспублікі.

Хаця некаторыя партыі Сойму і ўсе „інародцы“ стаялі на груньце першае разьвязкі, значна: роспуску Сойму і вызначэньня новых выбараў, Сойм адкінуў гэту прапазіцыю. У Сойме, бачыце, вытварылася зусім неспадзяваная і бяспрыкладная па свайму складу большасьць: вытварылася *коаліцыя правіцы з лявіцай*, коаліцыя польскіх сацыялістаў з польскімі эндэкамі і чорнасоценцамі... І вось гэтая коаліцыя ўзялася за тварэньне новага ўраду, які і „зьляпіў“ пан міністар замежных спраў, Скшыньскі.

Ня будзем пытацца, як гэта магло стацца, што ня толькі пэпэс Морачэвскі, але і такі, здавалася-бы, чысты з ідэйнага боку таварыш яго па партыі, як п. Земенцкі (колішні сябра Беларускае Сацыялістычнае Грамады з часоў першае Рэвалюцыі ў Расеі 1905 году!), згадзіліся ўзяць на сябе адказнасьць за нацыянальную палітыку ў школьных справах Станіслава Грабскага, за паліцэйскую гаспадарку ў краю п. Рачкевіча і за гаспадараньне нацыянальнымі багацьцямі людзей, зьвязаных з „дойлідзкай“ афэрай. Нас цікавіць сяньня перад усім пытаньне, ці толькі—што створаны на падставе сацыялістычна-эндэцкае ўгоды ўрад будзе здольным ня толькі да якое-небудзь творчасьці, але і да жыцьця?

Вось-жа адказ на гэтае пытаньне можа быць толькі адзін: *не*!

Пэпэсаўска-эндэцкая коаліцыя ня можа быць доўгавечнай хаця-бы дзеля таго, што абедзьве аб‘яднаўшыяся партыі прадстаўляюць дзьве групы насяленьня, інтарэсы якіх знаходзяцца ў непрымірымай супярэчнасьці. Эндэцыя, як ведама ўсім, стаўляе сваей мэтай „санацыю“ эканамічнага жыцьця Польшчы ня коштам заможных, валадаючых клясаў, а коштам працоўных масаў, і дзеля гэтага імкнецца да павялічэньня дня працы для ўсіх работнікаў з 8 да 10 гадзін. Ясна, што пэпэсы на гэта ня могуць згадзіцца, хоць-бы і хацелі, бо-ж пасьля такое здрады работніцкіх інтарэсаў у будучы сойм не прашоў-бы ўжо ніводзін пэпэсаўскі пасол! — Адначасна і імкненьне абшарнікаў, згуртаваных у правіцовых партыях, пералажыць большасьць падаткавых цяжараў з вялікіх дворных абшараў на „сярэднякоў“ і малазямельных сялян разыходзіцца з жаданьнем пястоўцаў, увайшоўшых у коаліцыю, абаперціся іменна на сялянах „сярэдняках“—вясковых „кулаках“, якім партыя п. Вітоса і хоча даць і зямлю, і ўсялякія падаткавыя палёгкі.... А тым часам жыцьцё што-дня будзе стаўляць перад новым урадам і соймавай большасьцяй якраз такія пытаньні, дзе ня можа быць ніякіх кампрамісаў і трэба выразна браць курс ці то ўправа, ці ўлева. І на першым такім пытаньні новаўтвораная соймавая „чыста-польская большасьць“ нямінуча разваліцца.

Якое-ж становішча ў адносінах да гэтага новага „калифа на час“, як кажуць расейцы, павінны заняць мы, беларусы?

Перад усім прысутнасьць у ўрадзе п. Скшыньскага такіх кіраўнікоў двух найважнейшых міністэрстваў, як асьветы—Станіслава Грабскага і ўнутраных спраў—Уладыслава Рачкевіча, выключае ўсялякія спадзяваньні на хоць — якія палёгкі беларусам пад уладай польскае дзяржавы. Гэтыя два прозьвішчы, як нельга больш выразна гавораць аб тым, што ў адносінах да беларускага нацыянальнага пытаньня і канстытуцыйных свабод ўсё будзе па-стараму. А далейшы склад ураду гавора нам наперад, што і зямельная палітыка ня дасьць нам нічога іншага, апрача яшчэ больш энэргічнага разьвіцьця польскага асадніцтва на землях Заходняе Беларусі....

Дык ясна, што і гэтаму ўраду нашы паслы, незалежна ад іх прыналежнасьці да Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, ці то да Беларускага Клюбу, даверыя свайго даць ня могуць і—спадзяемся — *не дадуць*! Наадварот: не спадзяючыся ні на якія ўрадавыя канцэсіі беларускаму працоўнаму народу, нашы выбранцы павінны толькі ўзмацаваць сваю працу сярод народных масаў, ведаючы тое, што ня толькі гэты, але і ніякі іншы ўрад нічога нам ніколі ня дасьць, калі ня будзе прымушаны лічыцца з нашай арганізаванай сілай.

## Лекару, вылячы сам сябе!

Старшынёй рады места Коўны выбраны паляк Янчэвскі.

Уся польская прэса трыумфуе з прычыны таго, што ў Коўне, нібы-то „чыста літоўскім месьце“, выбраны прэзыдэнтам паляк. Гэтага паляка-прэзыдэнта быццам „варварскія“ літоўскія ўлады арыштавалі зараз-жа пасьля выбару і выпусьцілі з вастрогу толькі тады, калі ён зрокся свайго становішча.

Але акурат амаль ня тое-ж самае, што ў „варварскай літоўскай Коўне, здарылася і ў „культурным“ „чыста польскім“ — Менску ў часе панаваньня там сучаснага міністра ўнутраных спраў п. Рачкевіча. Таксама і там расейцы разам з жыдамі складалі ў мястовай радзе большасьць і маглі выбраць свайго главу, чаго страшэнна баяліся польскія ўлады, як вялізарнага „скандалу“. Вось, гэтым уладам было мала навет таго, што блёк расейцаў і жыдоў, з „дыплёматычных відаў“, зрокся гэткай „дэманстрацыі“: тагачасны камісар п. Рачкевіч рашуча заявіў, што дапусьціць да працы мястовы самаўрад толькі тады, калі **няпольская большасьць Рады выбярэ польскую большасьць Управы**—разам, зразумела, з „польскім галавой“. І дзіўнае саўпадзеньне!—вёў з блёкам аб гэтым „ультыматуме“ перагаворы ведамы ў Менску радны Янчэвскі, можа і сваяк ковенскага?!...

Зразумела, што на гэткія дамаганьні акупацыйнай улады блёк не пайшоў. Дык у выніку гэтага канфлікту менскі мястовы самаўрад так і не зарганізаваўся.

А калі-б большасьць Рады зрабіла выбары і, выбраўшы няпольскую ўправу, пачала працу, дык — што зрабіў-бы тады п. Рачкевіч?!...

Пішучы гэта, мы ня думаем бараніць літоўскі нацыяналістычны ўрад, а толькі хочам напомніць крытыкам „літоўскага варварства“ з польскіх нацыяналістаў сьвятыя словы: лекару, вылячы сам сябе.

## Канец урадавага крызісу ў Польшчы.

Эндэцыя, Хадэцыя, Пяст, гэта значыць—уся „Пяста-Хіена“, толькі без Дубадэцыі („хрысьціянскіх“ абшарнікаў п. Строньскага), „Нацыяналісты-Работнікі“ і—„Нацыяналісты-сацыялісты“ (ППС)—вось тая новая, быццам „шырокая“ (!) коаліцыя, якая, як сцьвярдзіў сам „Robotnik“, „злажылася, дзякуючы поўнаму розуму і адказнасьці становішчу ППС“... Праўда!—Бо, як сцьверджана на канвэньце сэньёраў—у прысутнасьці п. п. пэпэсаўцаў, у падставу коаліцыі паложаны „новы пакт лянцкороньскі“ (як калісьці пакт Хіена з Пястам), або фармальна падпісаны і таксама тайны дагавор між эндэкамі і пэпэсамі... На падставе гэтай умовы пэпэсы, відаць, і згадзіліся пакінуць у супольным з эндэкамі габінэце тыя „нямілыя“ ім (дэлікатны выраз з „Robotnika“) асобы, проці якіх сьпярша яны ўльтыматыўна пратэставалі (перад усім Ст. Грабскі).

Якую-ж праграму мае гэтая „шырокая коаліцыя“, у складзе якой няма аніводнага прадстаўніка многапакутнага польскага, ня кажучы ўжо аб няпольскім, сялянства, якое, як добра-ж ведаюць паны пэпэсы, прадстаўляе тры чверці, калі ня больш, усяго насяленьня краю? (Ня лічым тут вітасавых кулакоў і „шэршняў“ Пяста).

Вось, як тыя-ж урадавыя польскія сацыялісты формулююць задачы гэтай „коаліцыі“:

„Мэтай коаліцыі зьяўляецца — „вывядзеньне краю з катастрафічнага гаспадарчага крызісу, барацьба з дарагоўляй і з безрабоцьцем. — ратаваньне падставаў нашай дзяржаўнасьці і незалежнасьці“. Коаліцыя мае зрабіць „вялікі высілак, каб палажыць канец цярпеньням Польшчы і яе работніцкай клясы“... І ўсе гэта, як піша „Robotnik“, усё тое, у-ва што ня верылі найвялікшыя оптымісты, сталася—дзякуючы розуму пэпэсаў“...

„Гістарычная неабходнасьць“, і „розум ППС“, гучна кажа газэта, злучыла паноў Скшыньскага, Рачкевіча, Керніка, Ст. Грабскага з панамі пэпэсамі—Морачэвскім і Земенцкім, каб „палажыць канец цярпеньням работніцкай клясы“, аб чым перад усім будуць клапаціцца, відаць, эндэкі п. Дмоўскага, хадэкі пана Корфантага, пястоўцы п. Керніка і сацыялісты п. Морачэвскага...

„Гістарычная неабходнасьць“ і „розум і адказнасьць ППС“ выключылі 20-мільённае сялянства Польшчы з усялякага ўчасьця ў дзяржаўнай працы...

„Гістарычная неабходнасьць“ і пэпэсаўскі „розум“ умацавалі на становішчы міністра асьветы ў „Дэмакратычнай Рэспубліцы“—упорнага і перакананага гасіцеля таго „сьвятла“, якім жыве больш як траціна няпольскага насяленьня Польшчы“...

„Гістарычная неабходнасьць“ і „адказны розум“ пэпэсаў запрасілі да супольнага габінэту навет і таго п. Керніка, аб якім тыя-ж пэпэсы ведаюць шмат рэчаў, (бо пісалі ў сваім „Robotniku“!)—з яго дзейнасьці, як Начальніка Галоўнай Зямельнай Управы (справа Дойлідаў, парцэляцыйнага Банку і т. п...).—Ведаюць, бо ніхто іншы, як калега п. Керніка па сучаснаму габінэту, п. Земенцкі (як і п. Чапіньскі) разглядаў у сваім часе хіена-пястоўскія законапраекты таго-ж пана Керніка, тады міністра ўнутраных спраў, — процізагарантаванага Канстытуцыяй права саюзаў, сабраньняў, коаліцыі (забастовак), свабоды слова і друку і інш. Тады паны Земенцкі і Чапіньскі з гарачым і шляхотным абурэньнем „зьніштажалі“ міністра Керніка за яго зьніштажэньне Польскай Канстытуцыі, за яго яўнае імкненьне пазбавіць работніцкую клясу ўсіх тых свабод і правоў, якія адны толькі гарантуюць ей магчымасьць мірнай барацьбы і абароны свайго жыцьця, сваіх законных інтэрэсаў...

Цяпер гэтыя самыя паны пэпэсы, як міністры, будуць „разумна і адказна“ сядзець побач з тым-жа п. Кернікам, якому яны-ж аддалі, так сказаць,—„у Дойліды“—ужо ўсе „dobra państwowe“, а яго таварышу па партыі п. Осецкаму — якраз тое самае міністэрства „Прамысловасьці і Гандлю“, якое мае такую вялікую вагу для работніцкага жыцьця, бо зьяўляецца магутнай крэпасьцяй паноў прамыслоўцаў...

Вось, чаго цяпер даканалі — „розум і адказнасьць“ пэпэсаў у саюзе з „гістарычнай неабходнасьцяй“. Вось якая „коаліцыя“ мае „палажыць канец цярпеньням Польшчы і яе работніцкай клясы“...

## БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАУНЫ КАЛЕНДАР.

Апрача Беларуск. адрыўнога і Гаспадарскага Календароў на **1926** год, праектуецца яшчэ выданьне **Беларускага Праваслаўнага Календара**, які выйдзець у канцы сьнежня г. г.

Паважаныя беларускія пісьменьнікі, песьняры і публіцысты і т. п. заклікаюцца да складаньня матэр‘ялаў да некаторых аддзелаў календара, як напрыклад: рэлігійны аддзел; беларуская справа ў мінуўшым годзе; гаспадарскі адзел; практычныя парады, усячына і цікавыя навінкі, літэратурны аддзел (проза і паэзія); жарты і т. п.

Матэр‘ялы можна складаць у Беларускай Кнігарні Вільня, Завальная вул. № 7.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Сьмерць С. Жэромскага.

**Памёр вялікі польскі пісьменьнік Стэфан Жэромскі.**

### Стан. Грабскі аб Жэромскім.

Міністар „асьветы“ п. Стан. Грабскі—у адказ на просьбу дэлегацыі польскіх пісьменьнікаў прыняць на дзяржаўны кошт хаўтуры найвялікшага з сучасных дзеячаў мастацкай літэратуры Польшчы, Жэромскага,—заявіў, што „Польская дзяржава ня можа браць на сябе хаўтуры... кальвініста і пісьменьніка, які дэмаралізаваў польскую моладзь. Адно, што можа зрабіць яна, гэта... заплаціць па рахунку хаўтурнага бюро.

Цікава, што на гэта адкажуць новыя калегі пана Міністра Грабскага—паны пэпээсы, толькі што назваўшыя Жэромскага — „вялікім прарокам і правадыром польскай дэмакратыі“?..

### „Баявая падрыхтоўка“ Варшавы.

Як патроху раскрывае „Kur. Poran.“, ген. Сікорскі не на жарты прымаў меры ваеннай аховы Варшавы—на выпадак „замаху пілсудчыкаў“. Цэлы рад ваенных школаў — з маладзейшымі, відаць, пэўнейшымі „юнкерамі“—былі пастаўлены „на баевую ногу“. З другога боку, адразу былі прыняты меры па разбраеньню розных „стралецкіх“ і ім падобных арганізацыяў, у якіх дагэтуль „гняздзіцца“ дух „пілсудчыны“. Былі навет адабраны карабіны ўва ўсіх школах, якімі вучн. карысталіся дзеля гімнастыкі і ваенных муштраў.

### „Асобныя габінэты“.

Міністар справядлівасьці выдаў загад, каб ўва ўсіх вастрогах былі адведзены асобныя габінэты, дзе сьледчыя маглі-б дапрашываць арыштаваных, ня выводзячы іх з турмы. Калі гэткіх асобных пакояў няма, тады дапрос павінен адбывацца ў вастрожнай канцэлярыі. Гэты загад—водгук таго, ужо ня першага здарэньня, што з камэраў сьледчых уцякаюць абвінавачаныя. Апошні скандал здарыўся, як ведама, з уцечкай з камэры сьледчага вядомага камуніста Лешчыньскага, які ў добрым здароўі апынуўся ў Маскве.

### Пабілі пасла Строньскага за Пілсудскага.

Як у Вільні Обста, так у Варшаве пілсудчыкі пабілі значна больш вострага і ядавітага „пілсудск-еда“ пасла і рэдактара „Варшавянкі“ (абшарніцкі орган) — Строньскага. Пабіўшы, афіцэр „карэктна“, як і ў Вільні Обсту, пакінуў п. Строньскаму сваю візытную картачку.

Як ні аднасіцца да маральна досьць „выразных“ асобаў абодвух пабітых, а перад усім—да нашага мяйсцовага „публіцыста“, але ўсё-ж трэба рашуча заклеймiць гэткія „мардабойныя расправы“, якія ў Польшчы робяцца—чым далей, тым болей—„нацыянальным“ бытавым зьявішчам, даводзячы, відаць, высокай „культуральнасьці“ нашх „прыраджоных“.

### Грозныя дэманстрацыі безработных у Лодзі.

18-га адбыўся вялікі мітынг безработных у Лодзі, у якой ёсьць ужо каля паўсотні тысяч безработных.

Прынята пастанова, каб магістрат зараз-жа выплаціў усім безработным па 200—300 злотых дапамогі. Пасьля гэтага грамада безработных падыйшла да магістрату і ўварвалася ў габінэт віцэ-прэзыдэнта, які, зразумела, уцёк. Прыбыўшыя вялікія атрады паліцыі рассеялі таўпу. Некалькі гадзін пасьля гэтага да магістару зьявілася дэлегацыя ад безработных — дзеля выкананьня пастановы мітынгу. Калі прэзыдэнт заявіў, што грошаў ня мае і ня можа сам нічога зрабіць, тады сабраўшаяся ізноў таўпа другі раз прабавала ўварвацца ў гмах магістрату, але ізноў была адагнана паліцыяй. Яб'яднаныя Праф. Саюзы пастанавілі сабраць вялікі мітынг, на якім мелі быць паслы (ведама-ж пэпээсы з „пажарнымі насосамі“, каб заліваць валой прамоваў агонь голаду работнікаў). Але ўлады забаранілі ўсялякія сабраньні. Праф. Саюзы трэбуюць ад ураду безадкладнага адчыненьня ўсіх зачыненых фабрык. Замест гэтага, фабрыкі прадаўжаюць, як сцьвярджае „Robotnik“, зачыняцца „катастрафічна“ (№ 320). За апошнія дні выкінута на вуліцу ізноў каля 5.000 работнікаў. Ваявода атрымаў ад ураду 200 тыс. злотых на куплю мукі для безработных. Мястовая Рада, здаецца, будзе распушчана за „безраднасьць“.

## Заграніцай.

### Нямеччына і Лёкарнскія Трактаты.

Пасьля 3-месячнага перарыву пачаліся паседжаньні Рэйхстагу (парляманту). На парадку дня ад панядзелку—дыскусія над Лёкарнскімі трактатамі.

Нямецкі ўрад з самім Гіндэнбургам на чале, а таксама Чэмбэрлен з Брыянам—зрабілі ўсё, каб толькі дабіцца ад Рэйхстагу прыняцьця Трактатаў. Трактаты ўжо абгавораны на спэцыяльнай канфэрэнцыі прэм'ераў усіх саюзных дзяржаў нямецкай Рэспублікі. Рада міністраў зацьвярдзіла ўжо тэксты паўнамоцтваў ураду на падпісаньне Трактатаў, а таксама й на ўваход Нямеччыны ў склад Лігі Народаў.

З свайго боку Англія і Францыя зрабілі ўсё магчымае, каб нахіліць нямецкіх нацыяналістаў да згоды. 1-га сьнежня пачнецца ачышчэньне Кельнскага абшару, акупаванага англійскімі войскамі; акупацыйны рэжым у Надрэніі злагоджаны амаль не да нармальнага. Усё гэта зроблена дзеля таго, каб пераканаць нямецкіх нацыяналістаў у шчырасьці Францыі і Англіі (давёў, відаць, пераможцаў да „шчырасьці“ крызіс у іх краёх). Цяпер толькі партыя Людэндорфа асталася непрымірымай, і Людэндорф закідае Гіндэнбургу здраду і „падпісаньне ганебнага дакуманту“.

### Ваяўнічая прамова Мусоліні.

На паседжаньні „парляманту“ Мусоліні сказаў вялікую і гучную прамову, у якой, пахваліўшыся вялікімі пасьпехамі свайго ўраду — унутранымі і дыплёматычнымі, заявіў, што цяпер фашызм у Італіі — такі моцны, як ніколі перад тым ня быў, і не баіцца ўжо ня толькі апазіцыі, якая „належыць ужо да архэалёгіі“, але мог-бы ўжо абыйсьціся і бяз „людзей чыну“ (чытай: забойцаў), а навет—без самога Мусоліні. На гэтых словах „правадыра“ ўся чыста фашыстаўская палата зрабіла яму вялікую маніфэстацыю. „Што для нас значыць, што некалькі палітычных жабракоў, ап'янеўшых ад адчаю і жаданьня помсты, робяць на нас замахі: фашызм жыве і будзе жыць, бо за яго—увесь народ“. Далей італьянскі прэм'ер, які толькі што палажыў свой подпіс пад Лёкарнскімі Трактатамі, але „ня хоча“ асабіста (бо-ж папросту баіцца абурэньня англійскага грамадзянства) ехаць у Лёндан на аканчальны іх подпіс, дазваляе сабе рад рэзкіх пагрозаў па адрасу „парлямантаў некаторых дзяржаў“, дапускаючых у сябе брахлівую крытыку фашыстаўскага рэжыму. „У кожнай хвіліні на мой заклік адказывае на гэтую „крытыку“ Мусоліні—стануць 2 мільёны маладых хлапцоў, каб адказаць на гэткія пагрозы“. „Я не хачу нікому пагражаць, але, як адказны галава італьянскага ўраду, я павінен зрабіць энэргічную перасьцярогу, якая была-б пачута ўсюды“.

### Пастанова Гаагскага Трыбуналу ў справе Мосулю.

Спорка між Англіяй і Турцыяй аб Мосуль (багаты нафтай турэцкі округ Мэсапатаміі), захоплены ў часе вайны Англіяй, пагражаючая дагэтуль вайной між імі, сьпярша разглядалася Лігай Народаў, а пасьля была аддана апошняй на фармальнае рашэньне Міжнароднага Трыбуналу ў Гаазе. Цяпер толькі-што гэты Трыбунал пастанавіў, што Рада Лігі паўнамоцна вырашыць справу па сутнасьці, і яе пастанова павінна быць аканчальнай — пад варункам, што яна будзе аднагалосная, прычым галасы Англіі і Турцыіі выключаюцца.

Дзіва, што Англія так стараецца зьяднаць да сябе Нямеччыну, якая мо' будзе тады ўжо засядаць у Радзе Лігі. Варта прыпомніць і тую рашучую заяву Турцыі, што яна ніколі ня згодзіцца на не карыснае для яе рашэньне Лігі.

### „Высокі камісар“ Францыі ў Сірыі паехаў у Лёндан.

Новы камісар Францыі ў Сірыі паехаў Лёндан, каб дагаварыцца там з Чэмбэрленам і Амэры—аб супольнай „працы“ проці паўстаньня ў Сірыі, пагражаючага ўжо і англійскім „мандатавым“ краінам у Малай Азіі. Ад'яжджаючы, ён заявіў, што вельмі здаволены нарадай і мае паехаць на такую-ж нараду ў Ангору, каб паразумецца і з Турцыяй.

### Прапазіцыя Англіі аб зьніштажэньні падводных лодак.

Ведама, якую страшэнную пагрозу для Англі, як гэта даказала апошняя вайна, прадстаўляюць падводныя лодкі.

Дык вось, цяпер „гуманная“ Англія, павялічваючы свой надводны флёт, запрапанавала ўсім марскім дзяржавам — зусім вывясьці з ужываньня падводныя лодкі. Японія і Амэрыка наагул „сымпатычна“ аднясьліся да прапазіцыі Англіі, калі толькі гэта зробяць шчыра ўсе іншыя дзяржавы.

### Пагроза вайны на Далёкім Усходзе.

Радавы ўрад зьвярнуўся да Японіі з нотай, у якой рэзка пратэстуе проці аружнага ўмяшацельства яе ў хатнюю вайну ў Кітаі. Гэтае ўмяшацельства нарушае расейска-японскае паразуменьне і можа выклікаць паважныя здарэньні.

Літвінов заявіў японскаму паслу ў Маскве, што СССР паступкамі Японіі будзе змушаны прыняць рашучыя меры дзеля аховы сваіх інтарэсаў, а перад усім дзеля абароны Усходня-Кітайскай чыгункі (ў Паўночнай Манджурыі), якая зьяўляецца ўласнасьцяй СССР.

### Прамова прэзыдэнта Куліджа.

Амэрыканскі прэзыдэнт Кулідж у сваей прамове заявіў, што Амэрыка паможа эўрапэйскім дзяржавам паправіць фінансавы стан толькі пасьля таго, як будуць урэгуляваны справы іх даўгоў Амэрыцы. Што датычыць крэдытаў Эўропе, дык наагул Амэрыка не павінна даваць грошаў, якія-б пайшлі на ўтрыманьне арміяў.



## На парозе „Польшчы Скшыньскага“.

(*Ад інфляцыі—праз „стабілізацыю“—да капітуляцыі?*).

Калі-б запраўды ў дзяржаве яе дабрат і разьвіцьцё залежалі толькі ад добрай волі павадыра яе ўраду, дык, можа, старшыня апошняга польскага ўраду п. Грабскі і не давёўбы краю да катастрофы ў працягу 2 гадоў... Дык зусім слушна казаў у сваей апошняй, шчыра ратаваўшай Грабскага прамове пэпээс п. Морачэвскі, што не ў асобе Грабскага—запраўднае зло, якое губіць Польскую дзяржаву... Шкада толькі, што стары атаман „чырвонай гвардыі“ пана прэм'ера зрабіў з гэтай слушнай думкі зусім няслушны вывад: быццам, каб ратаваць край ад зла, трэ перад усім пакінуць на мейсцы ахвярнага для паноў пэпээсаў прэм'ера...

Адзіным слушным вывадам быў-бы той, што—хто-б ні ўзяўся ратаваць Польшчу, яму трэба было-б перад усім добра разабрацца ў тым, што можна ў ёй адратаваць... І, разабраўшы добра справу, ратаваць толькі тое, што наагул магчыма адратаваць..

---

2-гадовае ўрадаваньне п. Грабскага, мо' найбольш здольнага, найбольш асабіста чэснага і бясспрэчна ўжо—найбольш працавітага з усіх тых сотняў „міністраў“, якія па чарзе кампраміталі, тапіліі і спіхалі ў магілу „паўстаўшую з мёртвых“ Польшчу,—бясспрэчна варта таго, каб над ім задумацца крыху глыбей і паважней, чым робіць гэта наагул польская публіцыстыка, баючыся праўды... І калі гэты, бясспрэчна найбольш паважны, найбольш адказны дзеяч, якіх толькі мае ў сябе паваенная Польшча, ратуючы ўсімі даступнымі ўладзе спосабамі Польскую дзяржаву ад магілы, якраз найглыбей сьпіхнуў яе ў яму, дык ясна, што над усей дзяржаўнай працай у Польшчы вісіць нейкі фатум — лёс, які робіць усе высілкі польскага Сізыфа*) дарэмнымі...—Падняты ім ужо быццам зусім на самы верх дзяржаўнай незалежнасьці залішне вялікі, відаць, зусім недасільны для яго „камень“, ці „абшар зямлі“... ізноў коціцца ўніз, цягнучы за сабой асуджанага багамі на гэтую цяжкую дый дарэмную працу...

---

Наглядная лекцыя, дадзеная польскаму грамадзянству 7-гадовым дасьледам яго незалежнага дзяржаўнага жыцьця, а перад усім—крахам усіх фінансава-эканамічных высілкаў Грабскага, здаецца, прамаўляе з поўнай яснасьцяй... Паўтараем: варта польскаму грамадзянству здаць сабе шчыра і праўдзіва адчот з усяго гэтага дасьледу... Спрабуем нашым звычаем памагчы яму ў гэтым.

Увесь гістарычны зьмест і сэнс істнаваньня толькі што памершай „Польшчы Грабскага“ зводзіцца да таго, каб даказаць немагчымасьць, так сказаць, істнаваньня „Польшчы Пілсудскага“... Гэта значыць, што тая „Вялікая Польшча“, якая створана ў нячувана шчасьлівых, запраўды баечных варунках нібыто набедамі Пілсудскага, а ўзапраўнасьці амаль не цалком — вонкавымі сіламі і срэдствамі сьпярша ўсей Антанты, а пасьля—аднэй Францыі,—гэтая „Польшча Пілсудскага“ павінна была ў далейшым знайсьці ў сябе ўнутры сталыя сілы і падставы—духоўныя і фінансава-эканамічныя, каб трымацца далей ужо сваімі ўласнымі сіламі...

І вось якраз гэтую задачу **стабілізацыі**, і ня толькі фінансавай, але і ўсякай іншай: духоўнай, палітычнай, сацыяльнай і эканамічнай,—„Польшча Пілсудскага“, пабудаваная наскрозь і ў-ва ўсіх галінах і сэнсах на **інфляцыі**, і задала „Польшчы Грабскага“... Бо-ж сам Язэп Пілсудскі сам „польскі Бонапарт“, аказаўся „Напалеонам“ толькі, так сказаць, напалову, калі ня значна менш... Добры, заўзяты ваяка, ён аказаўся вельмі няздольным да тэй цывільнай працы ў дзяржаве, у якой Напалеон выявіў мо' яшчэ больш геніяльнасьці, чым на палёх бітв.

*) Паводле грэцкай народнай легенды, Сізыф быў засуджаны на гэткую кару: каціць на гару вялізарны камень, які кожын раз каціўся з вяршыны назад уніз і „сізыфава праца“ пачыналася нанова.

# ХРОНІКА.

**Наш літэратурны аддзел.** З прычыны паступленьня ў Рэдакцыю цэлага раду літэратурных твораў, мы ад найбліжэйшых нумароў уводзім сталы літэратурны аддзел у нашай газэце пад кіраўніцтвам выдатных літэратурных крытыкаў.

**Акт абвінавачаньня кс. В. Гадлеўскаму.** 7-га лістапада с. г. кс. В. Гадлеўскі атрымаў акт абвінавачаньня. Абвінавачваюць ксяндза па ст. ст. 129, 6 і 130, 1 у тым, што быццам ён заклікаў народ да рэвалюцыі і да злучэньня беларускіх зямель, што пад Польшчай, з Літвой, або з Расеяй. На калі будзе вызначаны суд, яшчэ няведама.

**Агульны Сход Студэнтаў—Беларусаў у Вільні.** У нядзелю 22/XI сёл. году адбыўся агульны гадавы сход Студэнтаў — Беларусаў, дзеля выбару новага ўраду і абмеркаваньня працы на прышласьць.

У справаздачы за мінулы год уступаючы ўрад далажыў, што ён, прыдаючы вялікую вагу працы культурна-асьветнай і выдавецкай, клаў усе высілкі, каб зрабіць усё магчымае ў гэтай галіне.

Але польская адміністрацыя, прыдаючы гэтаму таксама, відаць, вялікую вагу, старалася ўсімі спосабамі гэтаму перашкаджаць, доказам чаго зьяўляецца 1) канфіскацыя № 3 (4) „Студ. Думкі“—органу Студэнтаў Беларусаў, 2) нявыдача дазволу на вечарыну, якую хацеў наладзіць Урад Бел. Студэн. Саюзу, і тактыка Камісарыяту Ураду, які паведаміў студэнтаў аб гэтым толькі напярэдадні вечарыны пасьля 7 візытаў да Кам. Урад., чым увёў Саюз у страты, а таксама і 3) тое, што, каб атрымаць дазвол на рэфэрат, трэба схадзіць да Камісара Ураду 5—8 разоў.

Агульны сход, заслухаўшы справаздачу ўступаючых Ураду і Рэвізыйнае камісіі, прыняў гэта да ведама і выразіў падзяку Ураду Саюзу за працу ў мінулым годзе.

Пасьля выбараў новага ўраду, у часе абгаварываньня працы на прышласьць, давалася адчуць з боку сяброў Бел. Студ. Саюсу зацікаўленасьць, шчырасьць і ахвота да працы ў гэтым годзе.

Было выражана сходам пажаданьне не адступаць перад перашкодамі з боку адміністрацыі, а чым болей энэргічна і напружана дружна працаваць.

Пры агульным энтузіязьме сход скончыўся пяяньнем „Ад веку мы спалі“.

**Пілсудчына ў арміі.** Адзін з пяхотных палкоў легіянераў, які разьмешчаны ў Вільні ў „казармах Шэптыцкага“, падаў заяву сваей вышэйшай уладзе, у якой кажа, што ня можа цярпець гэткага назову сваіх казармаў з увагі на ролю ген. Шэптыцкага ў часе аружнае барацьбы Пілсудскага за незалежнасьць Польшчы, і просіць зьмяніць назоў на „Koszary Wolności im. J. Piłsudskiego“.

Адначасна, не чакаючы на вынік свайго дамаганьня, полк зьняў стары назоў на казармах і замяніў яго новым.

**Пан Обст папаўся ў лганьні.** „Прысяжны брахун“, рэдактар „Дзен. Віл.“ п. Обст папаўся ў лганьні самым агідным спосабам, бо ня толькі быў фізычна пабіты афіцэрам-пілсудчыкам, але, мо' яшчэ мацней быў маральна пабіты вышэйшым начальствам гэтых афіцэраў—брыгадным генаралам Пожэрскім. Гэты генарал у сваім лісьце, зьмешчаным тым-жа панам Обстам у яго-ж газеце, — пасьля сьледзтва ў справе нападу на п. Обста—сьцьвярджае вось што:

Няпраўду кажа п. Обст, што афіцэры толькі **хацелі** яго пабіць,—але праўда, што афіцэр Хмара тры разы даў п. Обсту „па мордзе“...

Няпраўду піша п. Обст, быццам афіцэры ўкрывалі свае прозьвішчы і толькі пад пагрозай рэвальвэру з боку... п. Обста—назвалі сябе. Але праўда, што п. **Обст уцёк** ад іх са страху ў другі пакой, зваў на ратунак, клічучы паліцыю, хаваючыся пад абарону трох быўшых у рэдакцыі асоб.

Няпраўда, што афіцэры, пабіўшы п. Обста, пачалі ўцякаць. Але праўда, што яны сказалі свае прозьвішчы ўсім у рэдакцыі, толькі сам Обст са страху, зразумела, ня мог ані іх пачуць, ані запамятаць..

Абураючыся наагул на фізычны гвалт над працаўнікам прэсы, якой бы яна ні была,—нават над п. Обстам!—мы ня можам не адзначыць здаваленьня з прычыны таго, што гэты агідны брахун і паклёпнік, на якога ня было ніякога суду ў Польшчы, бо ён „умее пісаць“ так, каб ухіліцца ад суду, дый Суд неяк ня ставіць яго спраў на чаргу дня (напр. штось са 2 гады, калі ня больш, ляжыць справа, пачатая адв. Врублеўскім, за абразу і паклёп на пасла Барана), — што нарэшце гэты прысяжны брахун папаўся.. Папаўся і можа адгэтуль лічыцца ўжо сцьверджаным афіцыяльна лгуном...

# Пісьмы у рэдакцыю.

*Паважаны*
*Пане Рэдактар*!

Не адмоўце зьмясьціць у радкох Вашае газэты, што ўсе чуткі, быццам я атрымліваю грошы ад п. Паўлюкевіча і супольна працую з ім у так званай „Беларускай Часовай Радзе“, зьяўляецца наглай ілжой і інсінуацыей „паноў“ з „Часовае Рады“.

Гэтым падкрэсліваю, што ніколі я у „Часовай Радзе“ не працаваў і нічога супольнага з п. Паўлюкевічам ня маю.

З пашанай
**Крэчэт-Ярашэвіч.**

Вільня, 19 лістапада 1925 г.
Завулак Сьнягові д. № 8, кв. 74.

---

*Шаноўны Пане*
*Рэдактар*!

Дзеля таго, што сярод беларускага грамадзянства ходзяць чуткі, быццам я вяду супольную працу з так званай „Беларускай тымчасовай радай і п. дохтарам Паўлюкевічам і дапамагаю яму ў яго „асабістай працы“, дык не адмоўце у радкох Вашае паважанае газэты надрукаваць маю заяву.

Гэтым маю гонар заявіць усяму Беларускаму Грамадзянству, што я ня толькі нічога супольнага ня маю ні з „тымчасовай радай“, ні з п. дохтарам Павлюкевічам, а, наадварот, лічу, што ўся „праца“ паноў з „Рады“ зьяўляецца гнойным валдыром на нашай Беларускай Ніве і ці раней, ці пазьней гэты валдыр згіне! Бо „паны беларусы“ з „рады“ ужо добра ведамы ўсяму беларускаму грамадзянству і хіба-ж толькі зусім сьляпы можа мець дачыненьне з падобнымі „беларусамі з рады“.

З пашанай **Дзяргач.**

19 лістапада 1925 года.
Вільна, Завулак Сьнежны
буд. 6, пак. 5.

# З жыцьця Горадні.

✕ **Працэс "14".** 11 га лістапада ў Горадзенскім Акружным Судзе разглядалася справа „чатырнаццацёх“, абв. з арт. 102 К. К. часьць I у тым, што ў 1924 г. належалі да камуністычнай партыі, імкнуліся да перавароту і хацелі ўвясьці ўладу Радавай Рэспублікі ў Польшчы.

Абвінавачаныя: сэкрэтар саюзу спажыўцоў Экштэйн, кіраўнік жыдоўскай работніцкай кухні Голуб, Капцэвіч, Слушны (з м. Седлец), Стоквіш (гарбар безвызнанёвец), Левінтан Гэня, Віньніцкі, фэльчар Шафраньскі, Кравец (рабочы 40 г.), Бэндансон (столяр), Зільбэрштэйн Дора.

Трое абвінавачаных на суд не зьявіліся.

Склад суду: Старшыня—Матусэвіч, судзьдзі—Кашубскі і Дзержыньскі. Абвінавачываў — падпракурор Дэссін.

Абаронцамі выступалі адвакаты: Арэнштэйн і Гонігвіль з Варшавы, Лебман і Задай з Горадні.

Сьведкаў абвінавачаньня 9, з якіх пяць сьведкаў на суд не зьявіліся, і суд пастанавіў паказаньні іх адчытаць; галоўны сьведка — шэф палітычнай паліцыі Хімкевскі—не зьявіўся, але-ж ён ужо ня раз не зьяўляецца на працэсы і яго паказаньні адчытывае суд і ім верыць.

Пасьля дапросу сьведкаў і прамовы пракурора абаронцы ў сваіх прамовах даказвалі беспадстаўнасьць абвінавачаньня падсудзімых, аснованага выключна на „мэльдунках“ канфідэнтаў і вывядоўцаў паліцыі.

Суд вынес гэткі прыгавор:

Па 6 гадоў катаргі — Капцэвіч (з Беластока), Слушны (з Седлец).

Па 4 гады катаргі — Экштэйн, Голуб і Стоквіш (з Горадні). I 9 месяцаў вастрогу—Дора Зільбэрштэйн (ёй залічылі 9 месяцаў да суда і ўраз-жа звольнілі.)

Левінтан, Віньніцкі, Шафранскі, Кравец і Бэндансон апраўданы (5 чалавек).

✕ **Арышты.** 12 лістапада арыштаваны грамадзкі дзеяч Курбскі-Кузнецоў і пасаджаны ў вастрог у Горадні. Абвінавачываюць яго ў камунізьме.

Ужо 6 нядзель, як арыштаваны нібы ў палітычнай справе Паддубік Уладзімер. Матка яго, Аўдоля Паддубік, увесь час няможа даведацца, дзе знаходзіцца яе сын. Была старушка ў сьледчага судзьдзі. Той пакіраваў яе да пракурора, пракурор да другога пракурора і так без канца, а дзе сын, яна ня ведае. Наканец, пракурор паслаў яе да II камісарыяту паліцыі, каб даведалася там.

Але тут паліцыянт узяў яе за каўнер і выкінуў за дзьверы, а калі ўвайшла ізноў і спыталася аб сына, дык вылаялі яе самымі апошнімі славамі, што брыдка навет чуць, а пасьля ўдэрылі і прагналі. Бедная старушка маці сына так і не знайшла.

**Нёман.**

# З Радавае Беларусі.

**Новыя сябры Інбелкульту.** Зацьверджаны запраўднымі сябрамі Інстытуту Беларускае Культуры прафэсары Довнар-Запольскі і Краскоўскі, а такжа Гессэн, Карп, Казюра і Васілевіч.

**Запатрабаваньне на Беларускія учэбнікі.** З Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам зроблена ўмова на дастаўку школьных падручнікаў: для школ у межах Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі—на 270,000 рублёў і за межамі яе—у тых часьцінах, якія ўваходзяць у склад РСФСР, — на 100,000 руб. Падручнікі, заказаныя народным камісарыятам асьветы РСФСР, назначаны для беларускіх школ у Пскоўскай, Тверскай, Гомельскай і Смаленскай губэрнях.

Паступілі такжа заказы на школьныя падручнікі і літэратурныя творы для беларускіх перасяленцаў у Томской, Омскай і Прыамурскай губэрнях.

**Сялянскія газэты ў БСРР.** Сялянскіх газэт на Беларусі лічыцца 7: „Беларуская Вёска“ (Менск), „Витебская Крестьянская Газета“, „Полоцкий Пахарь“ (Полацк), „Магілёўскі Селянін“ (Магілёў), „Савецкая Вёска“ (Мазыр), „Наш Працаўнік“ (Клімавічы), „Слуцкі Будаўнік“ (Слуцак).

Па свайму зьместу гэтыя газэты дзеляцца на дзьве часткі: першая—„газэта сялянская“, другая—„газэта для сялян“.

Розьняцца яны вось чаму: першыя пераважна пішуцца за лік матар'ялаў з вёскі, за лік дапісчыкаў, а другія якраз наадварот—зьмяшчаюць больш кіруючых матар'ялаў, якія друкуюцца і апрача газэты і часта бываюць у кожнай хаце-чытальні.

Да **„сялянскіх“** газэт трэба аднесьці: віцебскую, полацкую, магілёўскую, а таксама і менскую „Беларускую Вёску“. Кожная з гэтых газэт у сваім нумары зьмяшчае ад 50 да 90 карэспандэнцыяў. Апрача гэтага, ёсьць самыя галоўныя аддзелы юрыдычнай дапамогі і аддзел пытаньняў і адказаў. Гэтыя газэты, калі прыглядзецца, дык і

---

Ці-ж запраўды не зьяўляецца першая „інфляцыя“— **тэрыторыяльная** – тэй першай прычынай, у выніку якой зьявілася і інфляцыя фінансавая, пацягнуўшая за сабой увесь далейшы рад зьявішчаў, давёўшых урэшце Польшчу на край катастрофы? „Інфляцыя“ дзяржаўная наагул, тая „разбудова панад сілы і срэдствы“, аб якой цяпер грыміць нават сам Дмовскі, ясна-ж — просты і няўхільны рэзультат залішне вялікага „абшару зямлі“, які польскі Сізыф, пры няпэўна-прыяцельскай дапамозе слабасільнай Францыі, пачаў цераз сілу каціць на гару... I вось першы, хто запраўды і паважна ўзяўся за гэтую легендарную задачу, і быў Грабскі...

I трэба польскаму грамадзянству ўцяміць сабе ясна і шчыра, што гэтая задача стабілізацыі, дый ня толькі польскага злотага, але наагул таго, што ў шырокім сэнсе слова можна назваць „польскай“ валютай,—не ўдалося... Як канкрэтным выражэньнем інфляцыйнага характару „Польшчы Пілсудскага“ была „разбудаваная“ зашмат па колькасьці—коштам яе якасьці і рэальнай вартасьці і трываласьці — польская марка, так сама і крах стабілізацыі польскага злотага зьявіўся выражэньнем тэй агульнай няўдачы стабілізаваць тое, што створана ў „баечныя“ ці „райскія“, як толькі што выразіўся Пілсудскі, часы „першага пэрыяду дзяржаўнага жыцьця Польшчы...

---

Вельмі лёгка пералічыць усе вялікія і малыя грахі і абмылкі дзяржаўнай гаспадаркі і палітыкі ўраду Грабскага. Можна сказаць перш-на-перш, што, захоплены сваей хваробай „заразумеласьці“ і азброены толькі габінэтным дасьледам і тэорэтычнай ведай у галіне фінансавай навукі, Грабскі залішне „матэматычна“ вырашыў задачу стварэньня новай польскай валюты, не паслухаўшы добрай і асьцярожнай рады запраўднага знаўцы фінансава-эканамічнага жыцьця, якога сам выпісаў з Англіі—Хільтона Юнга.

Праўда! Але трэба-ж ведаць, якога зьместу былі гэтыя рады цьвярозага англійца, якія варункі ставіў ён Грабскаму, каб загарантаваць добрыя і пэўныя скуткі сваіх радаў! Хільтон Юнг рашуча трэбаваў няменш, як напалову, абмежаваць дзяржаўны бюджэт Польшчы, ня спыняючыся перад такім-жа зьмяншэньнем выдаткаў на армію... Вось гэтае знамянітае мейсца ў справаздачы аб фінансавым стане Польшчы і пэрспэктывах яго аздараўленьня, якое Хільтон Юнг пасьля яшчэ ярчэй разьвіў у сваіх дакладах у Лёндане (у свой час было апублікавана ўсё ў польскіх газэтах): „Сучасная—армія, казаў ён—маючы мілітарна ратаваць дзяржаву на выпадак магчымай вайны, якой **можа і ня будзе**, становуча і напэўна ў часе міру руйнуе край фінансава-эканамічна. Дык ясна, што з дзьвюх небясьпекаў — пэўнай і няпэўнай— трэба рашуча выбраць пэўнейшую, каб перад усім абараніцца ад яе“... Вось, коратка, галоўная думка Юнга.

Мы памятаем, якое абурэньне выклікала ў польскім грамадзянстве **тады** гэтае „англійскае“ разважаньне, „не разумеючае географічнага палажэньня Польшчы“, як пісалі пад той час газэты.. Але найцікаўнай тое, што **цяпер**, пасьля дасьледу „Польшчы Грабскага“,—калі ўжо страчаны час ня толькі такія „асьцярожныя“ палітыкі, як Тугутт, дамагаюцца амаль не таго, чаго трэбаваў **тады**—перад забіўшай польскую гаспадарку „санацыяй“ Грабскага—Хільтон Юнг, але—шмат хто з патэнтаваных польскіх „дзяржаўнікаў“, нават з ваяўнічай польскай лявіцы, як пасол Домбскі, ідуць шмат далей за англійскага дарадцу... Як ведама, п. Домбскі нядаўна заявіў, што толькі 1-мільярдавы бюджэт уратуе Польшчу ад банкруцтва.. Дык ці-ж можна вінаваціць у „заразумеласьці“ і „нячуваным оптымізьме“ аднаго Грабскага?! Ведама-ж—не!—Як калісь Пілсудскі, так толькі—што Грабскі былі точным адбіцьцём амаль не ўсяго польскага грамадзянства, якое толькі цяпер—у выніку горкага дасьледу—адраклося ад свайго павадыра... Адраклося-ж толькі тады, калі зрокся сваей „санацыі“ ён сам... Бо-ж нават пэпээсы хацелі, каб астаўся!

(Канец будзе).

тэхнікай розьняцца ад газэт другой часткі. Сялянскія газэты з асаблівай увагай адносяцца да кожнага з сваіх дапісчыкаў; нярэдка замест перадавіцы даюць вясковую карэспандэнцыю.

Вось тыраж гэтых газэт:

1) віцебская—6000, 2) полацкая—5000, 3) магілёўская—4000, 4) слуцкая—3000, 5) клімавіцкая—1750, 6) мазырская—540.

**Тэатр для вёскі.** Другая беларуская дзяржаўная трупа пад кіраўніцтвам Галубка рэарганізуецца — з тым; каб надалей абслугоўваць выключна вёску.

У склад трупы ўвойдуць 26 асоб.

Адначасна праектуецца арганізацыя вагонаў-тэатраў, якія будуць ставіць спэктаклі для вёскі, затрымліваючыся на самых глухіх і далёкіх станцыях.

**Віцебскі Вэтэрынарны Інстытут.** У сёлетнім другім годзе істнаваньня ў беларускі дзяржаўны вэтэрынарны інстытут у Віцебску прынята 100 студэнтаў, у тым ліку 90 мужчын і 10 жанчын. Сярод новапрынятых 80 сялян (68 беларусаў і 12 вялікарусаў), 10 рабочых, 20 служачых і 2 другіх. Па нацыянальнасьці: беларусаў—83, вялікарусаў—12, жыдоў—4, украінцаў—1.

# Усячына.

### Крывавае жніво.

„Pro Patria“ перадрукоўвае з англійскіх газэт гэткія цыфры **загубленых „мірным“ шляхам** англійскіх работнікаў:

У працягу 1923 году ў адных толькі капальнях Англіі **пагіблі пры працы 1175 работнікаў, а лягчэй ці цяжэй раненых было 193,778.**

Лічба безработных дасягае цяпер цыфры паўтара мільёна, а разам з сем'ямі—4½ мільёна душ прымушаны жыць з урадавае дапамогі... **Сьмяротнасьць сярод дзяцей безработных—страшэнная:** дзеці мруць ад недаяданьня, як мухі. Адначасна безработныя перажываюць цяжкі кватэрны крызіс: на адну кватэру з 4 пакояў выпадае па 13 душ!

Ну, у нашых вясковых хатах, асабліва там, дзе сяляне ня здолелі дагэтуль адбудавацца, бывае яшчэ горш, і гэткімі цыфрамі нікога сярод беларусаў не задзівіш!



# Як дамагацца беларускае урадавае школы?

## Практычныя рады.

**А. Што павінен зрабіць кожны бацька беларус ці матка, ці апякун, якія маюць дзяцей у школьным узросьце.**

1. Кожны бацька, матка ці апякун павінны дбаць, каб іх дзеці вучыліся ў сваей роднай беларускай школе.

2. Кожны беларус павінен скарыстаць свае права дамагацца беларускай школы для сваіх дзяцей.

3. Кожны бацька, матка ці апякун павінны напісаць дэклярацыю аб тым, што жадаюць, каб іх дзеці вучыліся ў роднай беларускай мове, абавязкава пайсьці ў гміну, заверыць там свой падпіс і праз паўнамоцніка пад расьпіску гэту дэклярацыю здаць Школьнаму Інспэктару да 31 сьнежня (г. з. декабря) гэтага 1925 г.

**Увага:** Заверыць дэклярацыю можа, апроч гміны, яшчэ Міравы Судзьдзя, Натарыус, Старостава. Заверка на дэклярацыі подпісу солтысам, ці сьвяшчэньнікам, ці ксяндзом, ці вучыцелем, ці кім іншым ня будзе мець ніякой сілы, і дэклярацыя забракуецца.

4. Дэклярацыю трэба падпісваць у прысутнасьці войта.

5. Калі бацька, ці матка, ці апякун няпісьменны, то трэба папрасіць пісьменнага чалавека, каб у прысутнасьці войта расьпісаўся, як за няпісьменнага бацьку, і войт заверыць ужо гэты подпіс.

**Увага:** Калі ёсьць няпісьменны бацька, а матка пісьменная, то матка, ці дзіця ня можа падпісвацца на дэклярацыі за бацьку: трэба, каб падпісаўся хто іншы і дарослы.

6. Войт ня мае права адмовіцца ад заверкі подпісу.

**Увага:** 1) Калі войт адмовіцца пасьведчыць подпіс, то зараз-жа трэба аб гэтым паведаміць Цэнтр. Бел. Школ. Раду і Бел. Пас. Клюб.

2) Заверкі подпісаў у гміне ня трэба адкладаваць на апошнія дні, бо войт ня ўсьпее пасьведчыць усіх подпісаў да 31 сьнежня.

7. Толькі тады адчыніцца беларуская ўрадовая школа або ператварыцца істнуючая польская школа ў беларускую, калі бацькі з аднаго школьнага вокругу пададуць Школьнаму Інспэктару як можна больш дэклярацыяў, а прынамсі ня меньш, як на 40 вучн., што хочуць, каб іх дзеці вучыліся ў беларускай мове.

8. Калі Куратар на дэклярацыі не адчыніць беларускай школы або неператварыць істнуючай польскай школы ў беларускую, то бацькі павінны скардзіцца Міністру Асьветы.

**Б. Што павінен зрабіць паўнамоцнік, якога бацькі выбяруць скласьці Школьнаму Інспэктару дэклярацыі.**

1. Запісаць на асобным лісьце імёны і прозьвішчы бацькоў і апякуноў, імёны іх дзяцей, напісаць паперу да Школьнага Інспэктара, асабіста па сьпіску здаць у Інспэктарыят дэклярацыі да 31-га сьнежня (декабря) гэтага году, узяць ад Інспэктарыята пахвітаваньне на сьпіску бацькоў, сьпіс з пахвітаваньнем хаваць у сябе, а копію прыслаць у Цэнтральную Беларускуы Школьную Раду (Вільня, Віленская 12—6).

**В. У якой мове пішацца і запаўняецца форма дэклярацыі.**

1. Дэклярацыю трэба пісаць або пабеларуску, або папольску. Калі дэклярацыя будзе напісана паруску, то Інспэктар можа забракаваць.

У форме дэклярацыі трэба напісаць: імя і прозьвішча бацькі ці маткі, ці апякуна, назоў вёскі, гміны, павету, імёны дзяцей. Непатрэбныя словы ў дэклярацыі закрэсьліць.

**Г. Як павінна дапамагчы наагул беларускае грамадзянства, каб для сваіх дзяцей мець сваю родную беларускую школу.**

1. У тым школьным вокрузе (абводзе), дзе няма ніякой школы, беларусы павінны дамагацца, каб была адчынена беларуская школа; а дзе істнуе ўжо польская школа, каб яна ператварылася ў беларускую.

2. Кожны пісьменны або больш сьвядомы грамадзянін павінны растлумачыць няпісьменнаму бацьку ўставу аб арганізацыі школьніцтва ад 31. VII. 1924 г., а таксама распараджэньні Міністра Асьветы ад 7. I. 1925 г., памагчы напісаць дэклярацыю, старацца, каб дэклярацыяў было пададзена як можна больш, сьлядзіць, каб дэклярацыі былі завераны гмінаю і паданы Інспэктару да 31 сьнежня.

3. Калі хто будзе адмаўляць ці запугваць тых бацькоў, якія на падставе закону і распараджэньня Міністра Асьветы будуць падаваць Інспэктару дэклярацыі, каб іх дзяцей вучылі ў беларускай мове, таго трэба пацягнуць да судовай адпавядзяльнасьці, як за баламуцтва грамадзян.

4. Калі навет ёсьць у вёсцы прыватная беларуская школа—усё роўна трэба дамагацца ўрадовай беларускай школы.

**Д. Форма паперы, якую піша паўнамоцнік і перадае разам з дэклярацыямі Школьнаму Інспэктару.**

**Пану Школьнаму Інспэктару.**

у горадзе . . . . . . .

Паўнамоцніка жыхароў вёскі . . . . .
. . . . . воласьці . . . . . . . павету
(прозьвішча і імя) . . . . . . . . . .

**З А Я В А.**

У зьвязку з распараджэньнем Міністра Рэлігійных Спраў і Публічнай Асьветы ад 7. I. 1925 г. у справе школьнага ўставу ад 31. VII. 1924 года., я, ніжэй падпісаны паўнамоцнік сялян вёскі . . . . . . . . . . . . . . пры гэтым перасылаю падпісаныя і завераныя дэклярацыі ў ліку . . . шт. на . . . . дзяцей у справе беларускае выкладовае мовы ў школе ў вёсцы . . . . . . . . . . . .

Адначасна падаю да ведама, што ўсе дэкляранты даручылі мне інфармаваць інспэктарат аб патрэбных яму дадатковых данных.

(Подпіс) . . . . . . . . . .

Дня . . . . . . . . . 192 г.

**Е. Форма сьпіску бацькоў, якія праз паўнамоцніка падалі дэклярацыі Школьнаму Інспэктару аб навучаньні сваіх дзяцей у беларускай мове.**

**С Ь П І С.**

Грамадзян вёскі . . . . . . , гміны . . . . . . . , павету . . . . . . . . . , якія, на падставе распараджэньня Мін. Рэлігійных Спраў і Публічнай Асьветы ад 7. I. 1925 г. склалі Школьнаму Інспэктару . . . дэклярацыі аб жаданьні навучаньня дзяцей у роднай беларускай мове і сьпіс дзяцей школьнага ўзросту.

| | Імя і прозьвішча бацькі, ці маткі, ці праўнага апякуна | Імены дзяцей, пададзен. у дэклярац. |
|---|---|---|
| 1 | | |
| 2 | | |
| 3 | | |
| 4 | | |
| 5 | | |
| 6 | | |

**БАЦЬКІ! падавайце, інспэктару, як можна, больш дэклярацыяў аб навучаньні вашых дзетак у беларускай мове.**

**Школьны век дзіцяці лічыцца ад 7 гадоў без 4-х месяцаў да 14 гадоў і 4-х месяцаў.**

**ГРАМАДЗЯНЕ! дамагайцеся аб ператварэньне польскіх школаў у беларускія.**

Формы дэклярацый і інструкцыі можна атрымаць: 1) у Цэнтральнай Беларускай Школьнай Радзе;

2) у Наваградзкім Таварыстве Беларускай Школы;

3) у Радашкоўскім Тав. Бел. Шк.;

4) у Беларускім Пасольскім Клюбе ў Варшаве.

5) у Сэкрэтарыятах Беларускага Пасольскага Клюбу.

**Форма Дэклярацыі.**

# Дэклярацыя.

*Я ніжэй падпісаны (ая)* .................................... *грамадзянін (ка) Польскае Рэчы-*
(імя і прозьвішча)

*паспалітае, беларускае нацыянальнасьці, жыхар* .................... *гміны* ....................
(назоу вескі, места) (назоу гміны)

*павету* .................................... *як бацька—маці — праўны апякун дзіцяці — дзяцей—*
(назоу павету)

*у школьным веку.*

*1.* .................................... *3.* ....................................
(імя дзіцяці) (імя дзіцяці)

*2.* .................................... *4.* ....................................
(імя дзіцяці) (імя дзіцяці)

*на падставе артыкулу з уставу з 31 ліпня 1924 г., зьмяшчаючага некаторыя пастановы аб арганізацыі школьніцтва (Dz. U. R. P. № 79 poz. 766), жадаю ўвядзеньня ў істнуючую—моючую адкрыцца публічную народную школу ў* ....................................
(назоу вескі, места)

*беларускае выкладовае мовы.*

*Дня* .................................... *192* ........ *г.* ....................................
(уласнаручны подпіс)

**Да Школьнага Інспэктара**

ў ....................................
(назоу места)

УВАГА: У тэксьце дэклярацыі непатрэбныя словы закрэсьліць.

Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.